*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо»*
***Якуб КОЛАС***

**№ 25 (4483)**

27 сакавіка 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля



# 102 гады мінула з таго часу, калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка.



Верхні рад (злева направа): Аркадзь Смоліч, народны сакратар асветы; Пятро Крачэўскі, народны сакратар кантролю; Канстанцін Езавітаў, асобы ўпаўнаважаны па вайсковых справах; Антон Аўсянік, сябар Камісіі па міжнародных справах; Леанард Заяц, кіраўнік спраў урада.
Ніжні рад: Алесь Бурбіс, консул БНР у Маскве; Іван Серада, народны сакратар народнай гаспадаркі, старшыня Рады БНР; Язэп Варонка, старшыня ўрада і народны сакратар замежных спраў; Васіль Захарка, скарбнік Народнага сакратарыята БНР.

*(Пра тое, як тады ўсё адбывалася, – у артыкуле **“На зломе”** доктара гістарычных навук **Валянціна Голубева** і кандыдата філалагічных навук **Лявона Баршчэўскага**.)*

НАША ГІСТОРЫЯ: ПОГЛЯД З-ЗА МЯЖЫ

## НА ЗЛОМЕ

### У ЯКІХ УМОВАХ НАРАДЖАЛАСЯ БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА

Адзначана чарговая, 102-я, гадавіна абвяшчэння ў Мінску незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. У сувязі з гэтым мы, колішнія дэпутаты беларускага парламента, якія бралі непасрэдны ўдзел у стварэнні незалежнай Рэспублікі Беларусь на пачатку 1990-х гадоў, хацелі б падзяліцца з чытачамі «Народнай Волі» інфармацыяй пра кнігу нямецкіх даследчыкаў **Матыяса Дорнфельта** і **Энрыка Зеевальда** з Берлінскага свабоднага ўніверсітэта. Іх праца пад назвай «Адносіны паміж Германіяй і Беларуссю ў 1916–1925 гг.», якая зусім нядаўна выйшла ў Германіі і была прэзентавана на традыцыйным Мінскім форуме ў снежні 2019 года, шмат у чым па-новаму дазваляе адказаць на многія пытанні. Можна толькі падзякаваць нямецкім гісторыкам за тое, што яны выявілі дакументы, звязаныя з Беларуссю, у розных фондах Палітычнага архіва Федэральнага МЗС і Федэральнага архіва ў Берліне, а таксама ў Фондзе Конрада Адэнаўэра, які падтрымаў такі неабходны для вывучэння нашай найноўшай гісторыі праект.

Нямецкія даследчыкі адзначаюць, што самыя першыя апублікаваныя нататкі пра Беларусь непасрэдна звязаны з падзеямі Першай сусветнай вайны. Вядома, што ў жніўні 1915 года пачалося нямецкае наступленне ў напрамку Коўна–Вільня, а ў верасні нямецкая армія прарвала фронт у раёне Свянцян і дайшла да Смалявічаў (Свянцянскі прарыў). Крыху пазней лінія фронту знаходзілася ў раёне гарадоў Дзвінск–Паставы–Баранавічы–Пінск і працяглы час далей не прасоўвалася. Нямецкія салдаты і афіцэры так або інакш мусілі цікавіцца жыццём мясцовага насельніцтва. І ў прыфрантавым друку, і ў газетах, што выдаваліся на тэрыторыі самой Германскай імперыі, усё часцей з'яўляліся артыкулы і нават фотаздымкі, з якіх можна было скласці пэўнае ўяўленне пра жыццё людзей на акупаваных тэрыторыях. Як пакрэсліваюць аўтары кнігі «Адносіны паміж Германіяй і Беларуссю ў 1916–1925 гг.», акупанты-немцы часоў Першай сусветнай вайны не былі нацыстамі і не хварэлі на расавыя забабоны. Беларусы ім былі ў пэўнай меры цікавыя не толькі з палітычнага пункту гледжання, але і як малавядомы дагэтуль славянскі народ.

Неабходна заўважыць, што на акупаванай тэрыторыі Заходняй Беларусі нямецкае камандаванне рабіла пэўныя крокі па падтрымцы беларускага нацыянальнага руху. Вядома, у гэтай палітыцы Германія зыходзіла не з памкненняў беларусаў як народа, а са сваіх геапалітычных інтарэсаў – нямецкі ўрад імкнуўся паменшыць польскі і расійскі ўплыў на гэтых тэрыторыях за кошт падтрымкі адукацыі і культуры іншых нацыянальнасцяў, у першую чаргу беларусаў. **Так, у адпаведнасці з распараджэннем генерал-фельдмаршала Паўля фон Гіндэнбурга ад 16 студзеня 1916 года на акупаванай тэрыторыі абмяжоўвалася навучанне па-руску і ўводзілася абавязковае навучанне дзяцей на роднай мове.** У выніку на тэрыторыі Заходняй Беларусі на працягу вельмі кароткага часу было адчынена каля 300 беларускіх школ, з'явіліся газеты і часопісы на беларускай мове, пачалі ствараццa разнастайныя нацыянальныя арганізацыі, у першую чаргу культурніцкага напрамку.

*(Заканчэнне на 4-й стар.)*

САЛІДАРНАСЦЬ

## Як дапамагаюць адзінокім пенсіянерам?

*У сувязі з каранавірусам больш як 600 адзінокім пенсіянерам Гродзенскай вобласці, якія не падпадаюць пад надомнае абслугоўванне ў сацыяльных цэнтрах, сацыяльныя службы разам з валанцёрамі арганізавалі бясплатную дастаўку прадуктаў харчавання, лекаў і іншых тавараў на дом.*

### Найперш усіх праінфармавалі

У кожным раённым сацыяльным цэнтры вобласці ў СМІ і на сайтах камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне змешчана інфармацыя аб дапамозе адзінокім людзям сталага веку. Іх просяць устрымацца ад наведвання людных месцаў, і падаюцца тэлефоны, па якіх можна звяртацца за дапамогай. Літаральна за некалькі дзён паступілі званкі ад больш як 600 чалавек.

З тым каб пазбегнуць махлярства, кожнаму, хто патэлефанаваў, называюць дадзеныя канкрэтнага сацработніка ці валанцёра, які да іх прыйдзе.

### Розны падыход

Шчучынскі раён тэрытарыяльна адзін з самых вялікіх у Гродзенскай вобласці, але за некалькі дзён акцыі ніхто на гарачую лінію так і не патэлефанаваў. Работнікі цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва (ЦСАН) тлумачаць гэта вялікай колькасцю старых, якія атрымліваюць надомнае абслугоўванне, – 881 чалавек.

Падобныя аргументы выказалі і ў Іўеўскім ЦСАН. У Мастах падчас акцыі звярнуліся па дапамогу ўсяго некалькі чалавек. Дырэктар ЦСАН **Алена Мялежка** зазначыла для “Народнай Волі”, што амаль за ўсімі, каму патрэбна дапамога, замацаваны сацыяльныя работнікі, а ў аддаленыя вёскі добра наладжана дастаўка прадуктаў і іншых тавараў.

У Дзятлаўскім раёне, самым малым у вобласці па тэрыторыі і колькасці насельніцтва, работнікі цэнтра пачалі аказваць дапамогу 214 адзінокім старым, якія раней не знаходзіліся на ўліку ў ЦСАН. 547 чалавек атрымліваюць пастаяннае надомнае абслугоўванне.

### Чаму так атрымалася?

Дырэктар ЦСАН Дзятлаўскага раёна **Таццяна Нікіпорчык** распавяла, што перад пачаткам акцыі дапамогі адзінокім людзям сталага веку быў праведзены агульны сход. Сацработнікаў папрасілі акрамя абслугоўвання замацаваных за імі старых выяўляць у месцах, дзе працуюць і жывуць, самотных сталых людзей і прапаноўваць ім дапамогу ў набыцці прадуктаў і рэчаў першай неабходнасці: *“Нашы работнікі і ў горадзе, і ў вёсках знаходзілі такіх людзей, тлумачылі ім сітуацыю з каранавірусам, прасілі не выходзіць з хат, пакідалі тэлефоны гарачай лініі”*.

Пры гэтым, нягледзячы на дадатковы аб'ём работы, штат сацыяльных работнікаў не пашырыўся. *“У нас горад невялікі, і калі тэлефануюць людзі, якія не знаходзяцца ў нас на абслугоўванні, то да іх нясе прадукты той, хто зараз больш свабодны. Усё гэта рэальна зрабіць, не адрываючы сацыяльных работнікаў, якія замацаваны за канкрэтнымі людзьмі. Іншая справа, калі тэлефануюць з вёсак, – там мы просім дапамагчы нашых штатных супрацоўнікаў”*.

Таццяна Сямёнаўна расказала, што работнікі яе ўстановы па чарзе выязджаюць у вёскі, даводзяць інфармацыю адзінокім старым аб магчымасці заказаць дастаўку прадуктаў і іншых неабходных рэчаў.

Таццяна Сямёнаўна ўпэўнена: тыя, каму яны зараз дапамагаюць, застануцца іх кліентамі і надалей.

*“Мы хочам, каб самотныя людзі сталага веку адчулі, што яны не пакінуты Я заўсёды кажу сваім работнікам: вы абслугоўваеце інваліда, але калі па суседстве жыве адзінокі стары, зайдзіце да яго, запытайцеся, што трэба прынесці з крамы, і зрабіце гэта. Па-іншаму проста не можа быць”*, – лічыць Таццяна Нікіпорчык.

### Чалавечы фактар

Вось так і атрымліваецца, што ў адным раёне канстатуюць, што ніхто з адзінокіх людзей сталага веку не звярнуўся ў сацыяльны цэнтр, а ў другім сацработнікі не чакаюць ля тэлефона, а самі знаходзяць тых, хто мае ў іх патрэбу, каб пазнаёміцца, запытацца пра жыццё і здароўе і прапанаваць дапамогу.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**



БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

## Самі сабе зрабілі падножку

На апазіцыйных праймерыз – выбарах адзінага кандыдата – вось-вось пачнецца інтэрнэт-галасаванне. Гэта другі этап, але ўдзельнікі кааліцыі селі ў лужыну ўжо на першым, калі ішло афлайнавае галасаванне ў рэгіёнах. Як вядома, з праекта дэманстратыўна выйшаў хрысціянскі дэмакрат Павел Севярынец, а неўзабаве падобны дэмарш зрабілі Аляксей Янукевіч і яго Партыя БНФ, якія відавочна сімпатызавалі Севярынцу.

Засталіся тры прэтэндэнты, інтрыга амаль што знікла, бо цяпер бясспрэчным фаварытам выглядае старшыня руху “За Свабоду” Юрась Губарэвіч. Але самае прыкрае, што падарваны інтарэс, давер палітызаванай публікі да ўсёй задумы.

Абраць адзінага кандыдата ад апазіцыі не шэнціла аж ад 2006 года, калі ім стаў Аляксандр Мілінкевіч. І вось сёлета шэраг буйных апазіцыйных структур, здавалася, паказалі нейкую здольнасць дамаўляцца, выйшлі на працэдуру праймерыз. Але небаракі не вытрымалі першага ж экзамену.

Севярынец абурыўся тым, што на сходы ў рэгіёнах сталі хадзіць вертыкальшчыкі ды іх людзі. Маўляў, схіляюць шалі на карысць Губарэвіча. Той адпрэчыў абвінавачанні, назваў паводзіны апанентаў інфантылізмам. А падчас дэбатаў на “Еўрарадыё” запытаўся ў Янукевіча: “На каго працуеш?” І пачуў у адказ: “Юра, ты дэбіл?” Карацей, пайшло-паехала ў “найлепшых” традыцыях унутрыапазіцыйнай грызні павукоў у слоіку.

Панове, а можа, вы меркавалі, што вашы праймерыз будуць адбывацца ў стэрыльным асяроддзі, цяплічных умовах? Што ўлады не дадумаюцца нешта замуціць? Разлічвалі на міжсабойчык у межах вузкай тусоўкі апазіцыйных актывістаў?

Цвярозыя галовы вам увесь час кажуць, што трэба пашыраць агітацыю, прыцягваць на свой бок шырокія масы. А тут, атрымліваецца, вы спалохаліся некалькіх вертыкальшчыкаў, настаўніц ды сябраў БРСМ. Дык хай бы вы іх распрапагандавалі, перацягнулі ў сваю веру.

Скажаце, не той выпадак, занадта цвёрдая ўстаноўка была ў тых засланых казачкоў? Добра, але ж у кожным разе яны пакуль не маглі прагаласаваць за Лукашэнку – толькі за аднаго з апазіцыйных кандыдатаў. Між тым вы, удзельнікі праймерыз, загадзя дамовіліся, што будзеце супольна працаваць на пераможцу, хто б ім ні стаў. На практыцы ж аказалася: ага, калі не я, то гары яно гарам!

І калі ўдзельнікі праймерыз спасавалі перад найменшым выклікам на сваім жа полі, то як яны збіраліся весці барацьбу з рэжымам падчас самой прэзідэнцкай кампаніі, калі супраць іх будзе мабілізаваны ўвесь дзяржаўны апарат?

Зрэшты, Севярынец ад пачатку не надта верыў, што адзіны кандыдат будзе зарэгістраваны, рабіў стаўку на актыўны байкот, масавыя вулічныя выступленні і нават агульнанацыянальны страйк. Губарэвіч прапаноўваў мабілізаваць вялікую колькасць людзей для назірання, псіхалагічнага ціску на выбаркамы.

Але кожная з гэтых стратэгій вымагае, каб людзі паверылі апазіцыйным лідарам, масава адгукнуліся на іх заклікі. А ці многія павераць тым, хто не здольны годна зладзіць нават уласны праймерыз – прэлюдыю да выбарчай кампаніі? Хутчэй што патэнцыяльны актывіст падумае: вось пойдзеш за такімі, а яны толькі падставяць пад дручкі, як гэта было на Плошчы-2010.

Па вялікім жа рахунку апазіцыйныя дзеячы прэтэндуюць на кіраванне краінай. А там выклікі непараўнальна мацнейшыя, чым прыход пары настаўніц на правінцыйны сход. Дык ці варта будзе дзівіцца, калі абывацель, ацаніўшы апазіцыйны цырк, пра які з задавальненнем распавядзе дзяржаўная прапаганда, вырашыць: не, лепей ужо хай Лукашэнка!

Скандальны паўраспад кааліцыі “праймерыстаў” сведчыць пра тое, што ў сваёй маргінальнай нішы апазіцыйныя лідары насуперак патэтычным заявам не адчуваюць сапраўднай адказнасці перад народам. Толькі запалілі нейкую надзею ў часткі людзей, незадаволеных рэжымам (во, нарэшце будзе адзінства!), – і тут жа гэту надзею растапталі. Верх узялі амбіцыі, хітрыкі ды капрызы.

Так, гэта жорсткі палітычны рэжым загнаў сваіх апанентаў у маргінальную нішу. Апазіцыі цяжка скочыць вышэй за пояс. Але ж вы хоць не спатыкайцеся фактычна на роўным месцы, на старце, як гэта адбылося ў выпадку праймерыз. Абняславіліся на сваёй жа пляцоўцы, у межах уласнага праекта. Самі сабе зрабілі падножку.

Рэжым яшчэ моцны. Кладучы руку на сэрца, на сёлетніх выбарах перамагчы яго ад пачатку выглядала задачай практычна нерэальнай. Але быў шанец хаця б не пляснуцца тварам у гразь, выступіць больш-менш годна, паказаць альтэрнатыву і атрымаць новых прыхільнікаў сярод электарату. Але зараз баюся, што плюнуць і многія старыя прыхільнікі.

ПОЛИТКУХНЯ

## В Администрации президента готовят текст Послания народу и парламенту

*Об этом сообщает телеграмм-канал «Пул первого», приближенный к главе государства.*

Правда, конкретная дата выступления А.Лукашенко пока не называется – лишь примерные сроки.

«Как раз в эти дни работают над экономическим блоком текста, – сообщает «Пул первого». – Говорят, структура в первом приближении уже ясна и несколько недель была на рассмотрении первого. Времени остается немного, по нашим подсчетам – недели три. Впрочем, в нынешнее время прогнозы – дело неблагодарное. Так что ждем!»

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ПОДРОБНОСТИ

## Вячеслав Бурский отбывает наказание в Бобруйской колонии

*Апелляционная жалоба бывшего гендиректора холдинга «БелОМО», доктора технических наук Вячеслава Бурского осталась без удовлетворения. Приговор бывшему промышленному генералу пока оставлен в силе.*

*Как уже сообщала «Народная Воля», Бурский приговорен к 5 годам лишения свободы в колонии усиленного режима. За взятки.*

*«Это для него фактически смертный приговор», – так прокомментировал «Народной Воле» приговор Бурскому экс-глава концерна «Амкодор» Василий Шлындиков.*

Как стало известно «Народной Воле», экс-гендиректор «БелОМО» отбывает наказание в Бобруйской исправительной колонии.



Некоторое время Вячеслав Бурский находился под домашним арестом – ему изменили меру пресечения. А после приговора прямо в зале суда на него надели наручники. Бурского этапировали в Жодино, а уже оттуда, когда приговор вступил в законную силу, перевели в Бобруйск.

*«Колония, конечно, не курорт, но Вячеслав Александрович держится, духом не падает, на условия не жалуется!»* – говорят люди, которые поддерживают с ним контакты.

*«Учитывая возраст Вячеслава Бурского и его многочисленные заслуги перед страной, ордена, суд мог назначить ему наказание ниже нижнего предела или выбрать другое наказание, но его отправили в колонию на пять лет, несмотря ни на что,* – говорят юристы. – *Возможно, будет объявлена амнистия, но сейчас коррупционеры под нее не попадают. Возможно, если общественность будет настаивать на том, чтобы амнистию к коррупционерам все же применили, тогда ситуация будет немного проще. Не подпадают теперь коррупционеры и под условно-досрочное освобождение. Значит, Бурскому, не исключено, придется сидеть от звонка до звонка, и на свободе он может оказаться лишь в 78 лет! Но справедливо было бы вообще выпустить такого человека из тюрьмы. Он столько сделал для страны – хорошего, что прегрешения эти – мелочь…»*

Сейчас, по словам юристов, Вячеслав Бурский *«может обжаловать приговор в порядке надзора в Минский городской суд, а затем обратиться в Верховный суд»*.

Еще у Бурского есть возможность написать прошение о помиловании на имя Александра Лукашенко.

Не исключено, что экс-гендиректор «БелОМО» воспользуется этой возможностью.

**Марина КОКТЫШ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

*В конце минувшего года стало известно, что Министерство образования не продлило аккредитацию Минскому инновационному университету по пяти основным специальностям. История получила большой резонанс. А какая сейчас ситуация в МИУ? Правда ли, что этот частный вуз сегодня находится на грани закрытия? Этот вопрос «Народная Воля» попыталась выяснить у чиновников Министерства образования и ректора МИУ.*

ОФИЦИАЛЬНО

Сергей КАСПЕРОВИЧ:

# «Министерство образования студентов не оставит!»

*Начальник Главного управления профессионального образования Министерства образования Сергей Касперович пока не знает, прошел ли МИУ аккредитацию.*

– Насколько я знаю, аккредитацию проводил Департамент контроля качества образования, который возглавляет Михаил Мирончик, – *сказал Сергей Антонович «Народной Воле».* – Только он может знать ситуацию с МИУ, у нас еще по этой теме нет данных. Мне даже сложно сказать, завершилась ли аккредитация.

**– А если вуз не пройдет аккредитацию?**

– Значит, не сможет выдавать документ о высшем образовании государственного образца. А какие дальше решения будет принимать ректор – это зависит исключительно от него. Может, придется еще раз идти на аккредитацию, а может, они и пройдут аккредитацию. Посмотрим!

**– Частный университет может выдавать свои дипломы?**

– Теоретически – да. Другой вопрос, пойдут ли на это обучающиеся, студенты. Я полагаю, что они в таком случае изъявят желание перевестись в другие вузы. И они имеют на это право. Такие, скажем так, нарисованные дипломы вуз выдавать может, но они будут иметь статус даже не свидетельства, а справки, удостоверения о том, что человек учился в таком-то университете и прослушал курс лекций. Единственное, что я могу сказать совершенно точно, – мы никогда студентов не оставляли один на один с проблемами. И я могу заявить, что Министерство образования не оставит студентов МИУ в любой ситуации, если что-то будет не так. Но пока об этом рано говорить – нужно видеть результаты аккредитации.

**– А в этом году МИУ будет выдавать дипломы?**

– Все зависит от результатов аккредитации. Если аккредитация будет успешно пройдена, значит, будут выдавать дипломы установленного образца. Пока из МИУ ушли только студенты, которые заканчивали обучение по специальности «логистика». Зимой они были переведены в БНТУ. Все остальные студенты учатся в МИУ, а как дальше будет разворачиваться ситуация, мы пока не знаем.

**– Скоро новая вступительная кампания…**

– Вступительная кампания никак не влияет на процессы выпуска. Набирать студентов университет теоретически может, даже будучи не аккредитованным, потому что он может аккредитоваться, опять же чисто теоретически, уже осенью, если вдруг не будет аккредитован сейчас. Лицензия-то у МИУ есть, она действует. В принципе, формально набор осуществлять можно, если цифры приема будут утверждены и согласованы – это совершенно отдельный процесс, и дальше можно осуществлять обучение. А пока студенты будут учиться, может очень многое поменяться. Можно аккредитацию пройти, а можно не пройти даже по аккредитованным специальностям. Так что все может быть по-разному…

Михаил МИРОНЧИК:

## «Результаты аккредитации будут известны после 15 апреля»

Директор Департамента контроля качества образования **Михаил Мирончик** на вопрос «Народной Воли» о ситуации с аккредитацией МИУ ответил коротко: *«Административная процедура будет завершена 15 апреля, мы ознакомим с заключением, которое сегодня в стадии подготовки».*

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

Николай СУША, ректор МИУ:

# «Закрывать университет не собираюсь»

*Если МИУ лишат лицензии, знания студентов будут подтверждены академической справкой.*

**– Николай Васильевич, расскажите, прошел ли ваш вуз аккредитацию?**

– Частично прошел, аккредитация закончится по срокам 15 апреля, и потом будут известны все результаты.

**– Слухи о том, что университет закрывается, беспочвенны?**

– А почему университет должен закрываться? Так вопрос никогда и не ставился. У нас лицензия бессрочная, как работали, так и работаем. Закрыть университет могу только я, потому что это частное учебное учреждение, и, согласно законодательству, я его открывал, и только я имею право его закрыть. Другое дело, что у нас могут отнять лицензию, лишить аккредитации. Этому я уже не могу противостоять. Но закрывать университет не собираюсь…

**– На следующий учебный год планы строите? Набор студентов будет?**

– Вести образовательный процесс нам не запрещено. Аккредитация только подразумевает право выдачи диплома установленного образца. Но вы можете получить у нас знания, и мы подтвердим эти знания академической справкой о вашем обучении.

**– Но вы же понимаете, что для вас это невыгодно: многие идут учиться ради диплома, а не ради справки.**

– А может, и выгодно. Меньше головной боли… И многие студенты, особенно творческих специальностей, говорят: мы все равно за границу уедем, дайте нам знания, чтобы мы могли работать. А диплом МИУ может и собственный выдавать, как за границей, где каждое учреждение образования имеет свой диплом. В Европе кроме нас только в Польше единые дипломы и еще в России.

**– А чтобы выдавать дипломы европейского образца…**

– Нет такого понятия – «диплом европейского образца». Например, Оксфорд выдает свой диплом, Кембридж – свой, Уэльский университет – свой. Единого европейского диплома нет. Но у каждого университета есть свое лицо.

**– Вы на полном серьезе говорите, что можете стать первым белорусским вузом, который начнет выдавать собственные дипломы?**

– А почему нет?

**Марина КОКТЫШ.**

НУ І НУ!

# «Маскі ў аптэках падаражэлі ў пяць разоў!..»

*Учора карэспандэнт «Народнай Волі» прайшоўся па сталічных аптэках.*



Ажыятаж вакол медыцынскіх масак пачаўся яшчэ ў лютым. Яны зніклі з аптэк, затое з'явіліся спекулянты, якія аднаразовыя маскі, якія раней каштавалі каля 30 капеек, прадавалі па рублю.

На пачатку гэтага месяца прэс-служба МУС Беларусі нават паведаміла, што ў Мінску затрыманы мужчына, які *«спекуляваў дэфіцытным таварам – медыцынскімі маскамі».* У дачыненні да яго быў складзены адміністрацыйны пратакол у сувязі з ажыццяўленнем незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

Днямі прэм'ер-міністр **Сяргей Румас** заявіў, што ў Беларусі за адзін дзень вырабляецца 250 тысяч масак, а Міністэрству аховы здароўя даручана пракантраляваць, каб яны былі ў кожнай аптэцы. Мы праверылі, як гэта выконваецца на справе.

**Аптэка на праспекце Дзяржынскага, 122.**

– Маскі ёсць і аднаразавыя, і шматразовыя, – кажа мне прадавец. – Апошнюю можна памыць, папрасаваць і зноў насіць. А вось кошты ўжо змяніліся: аднаразовая маска каштуе 1,41 рубля, шматразовая – 1,38 рубля.

*«Цэны – проста жах!»* – абураецца адзін з пакупнікоў. *– Раней гэтыя маскі 30 капеек каштавалі, а зараз паднялі цану амаль у пяць разоў. У спекулянтаў праз інтэрнэт можна было за рубель купіць, але тут яшчэ спрэчнае пытанне, хто сапраўдны спекулянт».*

– Мы кошты не ўстанаўліваем, – парыруе прадавец.

**Аптэка на вуліцы Рафіева, 93.**

– Маскі ёсць, – паведамляюць мне. – Аднаразовая – 1,41, шматразовая – 1,38 рубля.

– А дзе іх вырабляюць?

– У нас пазначана, што вытворца аднаразовых масак – беларуская кампанія «Спанеўрамед».

Заходжу на сайт гэтай кампаніі, чытаю: *«Спанеўрамед» з'яўляецца беларускім вытворцам аднаразовых медыцынскіх вырабаў, якія пастаўляюцца ў медыцынскія і іншыя ўстановы аховы здароўя, а таксама на прадпрыемствы рознага профілю.*

*Дзякуючы зладжанай рабоце і невялікай колькасці персаналу, мы можам дазволіць сабе ўстанаўліваць* ***самыя нізкія і канкурэнтаздольныя цэны*** *на наш тавар».*

**Аптэка «Берфармацыі» на вуліцы Ясеніна, 10.**

У продажы маецца шматразовыя марлевыя маскі па 1,10 рубля, а вось аднаразовых няма зусім.

– Іх у нас ужо даўно не было, – тлумачыць прадавец. – Вазьміце літр антысептыку, усяго 6 рублёў 30 капеек.

**Аптэка на вуліцы Рафіева, 88.**

– Антысептыкі ёсць, а масак няма, – коратка інфармуюць мяне.

**Аптэка на вуліцы Громава, 28.**

– Няма ні масак, ні антысептыкаў, – кажуць работніцы аптэкі. – Апошні раз былі на мінулым тыдні.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ОФИЦИАЛЬНО

# Белорусское правительство определило меры по предотвращению завоза и распространения коронавируса

*Это предусмотрено постановлением Совмина от 25 марта 2020 года №171.*

## Самоизоляция

В частности, установлено, что лица, прибывшие в Беларусь из стран, в которых регистрируются случаи инфекции COVID-19, в течение 14 календарных дней со дня прибытия в Беларусь должны находиться в самоизоляции в домашних условиях. Они также не подлежат последующему пропуску через государственную границу Беларуси (до истечения срока самоизоляции).

Вместе с тем эти действия не распространяются на иностранцев, следующих транзитом через территорию Беларуси для возвращения к месту жительства. Они не коснутся и сотрудников дипломатических представительств, консульских учреждений иностранных государств в Беларуси и аккредитованных по совместительству с резиденциями в других странах, международных организаций и их представительств, расположенных на территории страны, а также членов их семей. Действия не распространяются на глав и членов официальных делегаций, водителей транспортных средств при выполнении международных автомобильных перевозок грузов, членов экипажей воздушных судов, судов внутреннего водного транспорта, поездных бригад, локомотивных бригад международного железнодорожного сообщения.

Перечень стран, в которых регистрируются случаи инфекции COVID-19, размещается на официальном сайте Министерства здравоохранения. Правила поведения прибывших лиц, находящихся в самоизоляции, также определяются министерством. Порядок взаимодействия органов госуправления и иных организаций по обеспечению соблюдения мер самоизоляции прибывшими лицами определяют Министерство здравоохранения, Министерство внутренних дел и Государственный пограничный комитет.

Сотрудники органов пограничной службы выдают прибывшим лицам соответствующую анкету по форме, установленной Минздравом. После заполнения анкету передают сотрудники органов пограничной службы должностным лицам Минздрава.

## Транзитные перевозчики

Водители, выполняющие транзитные автомобильные перевозки грузов через Беларусь, в том числе с территории России в страны ЕС и Украину, между двумя пунктами пересечения белорусской границы обязаны проезжать только по республиканским автомобильным дорогам, на которых возможна остановка (стоянка) для отдыха и питания водителей, заправки транспортных средств. Транзитные перевозчики во время остановки не должны покидать территорию этих пунктов.

Водители, выполняющие транзитные перевозки, обязаны покинуть территорию Беларуси по кратчайшему маршруту не позднее дня, следующего за днем въезда на ее территорию. Исключение составляют случаи, когда соблюсти этот срок невозможно из-за аварии (поломки) машины, а также разгрузки, перегрузки (перевалки) груза, замены транспорта, если это предусмотрено условиями договора автомобильной перевозки и указано в транспортных документах. Для этого в случае необходимости допускается отклонение от республиканской автомобильной дороги, указанной в специальном перечне. Данные операции должны быть выполнены в минимальные сроки.

## Меры госорганов

Минтрансу поручено обеспечить тиражирование карты республиканских автомобильных дорог и пунктов остановки (стоянки) для отдыха и питания водителей, заправки транспортных средств на русском и английском языках для передачи госорганам, осуществляющим таможенный контроль в пунктах пропуска. На въезде в страну должны быть установлены информационные щиты с картой. Перечень дорог и специализированных мест можно будет увидеть на официальном сайте ведомства.

ГТК в пунктах пропуска на белорусском участке внешней границы ЕАЭС, Транспортная инспекция Минтранса на белорусско-российском участке границы организуют вручение транзитным перевозчикам требований и ознакомление с ними. Государственному таможенному комитету также поручено обеспечить установление срока таможенного транзита до конечного пункта назначения с учетом постановления.

Минздраву совместно с облисполкомами необходимо организовать контроль за проведением санитарно-противоэпидемических мероприятий в пунктах остановки для отдыха и питания водителей, заправки транспортных средств. Облисполкомам совместно с «Белнефтехимом» поручено принять необходимые меры по обеспечению персонала в этих пунктах средствами индивидуальной защиты (медицинские маски, перчатки) и контролю выполнения рекомендаций Минздрава.

За неисполнение требований настоящего постановления прибывшие лица, а также водители, выполняющие транзитные перевозки, несут ответственность, предусмотренную законодательством. Министерству иностранных дел необходимо информировать по дипломатическим каналам иностранные государства о принятии документа.

Контроль за выполнением постановления возложен на Минздрав, МВД, Минтранс, МИД, Государственный пограничный комитет, Государственный таможенный комитет, «Белнефтехим», облисполкомы в соответствии с компетенцией.

Документ вступает в силу после его официального опубликования.

(БЕЛТА)

СІТУАЦЫЯ

# За што затрымалі Сяргея Сацука?

*Галоўны рэдактар сайта "Ежедневник" знаходзіцца пад вартай.*



**Сяргей Сацук** быў затрыманы 25 сакавіка, калі паехаў з жонкай на сваёй машыне ў магазін будаўнічых матэрыялаў у Сціклева, што ля кальцавой Мінска.

*"Затрымлівалі супрацоўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК, – распавялі "Народнай Волі" калегі Сацука. – Жонку і машыну пакінулі, Сяргея павезлі на допыт у якасці падазраванага і пакінулі пад вартай на трое сутак. Падазраюць нібыта ў хабары".*

Учора ў рэдакцыі сайта адбыўся вобыск, забралі тэхніку і некаторыя дакументы. Таксама ў шэрагу электронных СМІ быў надрукаваны тэкст, які Сяргей пакінуў рэдакцыі "Еўрарадыё" некалькі месяцаў таму на выпадак свайго затрымання.

У ім ён расказаў пра прычыны, па якіх можа быць затрыманы, і пра пагрозы, якія атрымліваў у свой адрас ад "ганца" – бізнесмена са сферы аховы здароўя.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СЛЫШАЛИ?

# Алексей Марочкин застрял в Черногории

Группа белорусских художников уехала на пленэр еще 2 марта. Это мероприятие организовал черногорский бизнесмен Ратка Попович, причем делает он это уже не первый год. Высоко в горах предоставляет белорусским художникам жилье и питание за свой счет, и люди месяц спокойно занимаются творчеством. Расплачиваются, как это принято, своими картинами. Вот и этой весной четверо художников – Алексей Марочкин Наталья Пиневич, Алесь Палей и Настасья Потворова – приехали в Черногорию в начале марта. И в Минск должны были вернуться не позднее 3 апреля. Но теперь их отъезд откладывается как минимум на 20 дней, так как на время карантина авиасообщение прекращено. Впрочем, удивительное дело: настроение у всех художников, как сообщил нам сын Алексея Марочкина, который держит связь с группой, шикарное. Игорь Марочкин поделился такими семейными новостями:

– Отец с головой ушел в работу. Он, правда, похудел, но зато как хорошо выглядит! Все потому, что ходит по горам, пьет домашнее виноградное вино и не ест сладкого, как в Минске привык: зефир, изюм и вафли. До моря неблизко, надо спускаться десять километров. Да, в их распоряжении есть автомобиль, но в машине можно ехать только по двое: водитель и пассажир на заднем сиденье. Такие сейчас в Черногории правила. Вообще страна из-за вируса обезлюдела: гостиницы на побережье не работают, кафе закрыты, дороги на пляж перекрыты. Остаются только горы. Кстати, день назад там выпал обильный снег. Отец радуется: наконец с цветов, с натюрмортов он перейдет на зимние пейзажи. Соскучился по снегу.

Как сообщают информационные агентства, в Черногории зарегистрированы 22 случая заражения COVID-19, под наблюдением находятся 5565 человек. Один человек – 65-летний житель Герцег-Нови, у которого было хроническое заболевание легких, – скончался несколько дней назад.

**Виктория ДРОЗД.**



НАША ГІСТОРЫЯ: ПОГЛЯД З-ЗА МЯЖЫ

# НА ЗЛОМЕ

## У ЯКІХ УМОВАХ НАРАДЖАЛАСЯ БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Падзенне царскага рэжыму, а потым і Часовага ўраду ў Расіі, прыход да ўлады там бальшавікоў, як вядома, былі адзначаны прыняццем апошнімі Дэкрэта аб міры і Дэкларацыі правоў народаў Расіі. На гэтым фоне адбываліся перамовы ў беларускім Брэсце аб заключэнні міру на Усходнім фронце Германскай імперыі. У сваёй кнізе Матыяс Дорнфельт і Энрыка Зеевальд цытуюць дакументы, якія выкрываюць двурушную палітыку ўрада Леніна–Троцкага ў гэтым пытанні. Справа дайшла да таго, што 12 студзеня 1918 года кіраўнік германскай дэлегацыі на брэсцкіх перамовах генерал-маёр Макс фон Гофман наўпрост абвінаваціў бальшавіцкае кіраўніцтва ў тым, што ім у канцы снежня 1917 года быў разагнаны кангрэс у Мінску, які збіраўся дамагчыся права самавызначэння для беларускага народа. *«Вось як выглядае на практыцы ажыццяўленне права на самавызначэнне народаў [бальшавіцкім] урадам… Для нас відавочна, што народы акупаваных тэрыторый выразна і адназначна выказалі ўжо свае памкненні аддзяліцца ад Расіі»*. Кайзер Вільгельм II у канцы тэлеграмы з пратаколам гэтага пасяджэння напісаў сваёй рукою: *«Гофман выказаўся вельмі слушна і бліскуча! Так ёсць, і, у адпаведнасці з маімі загадамі, так яно і застанецца! Бальшавікі мусяць замірыцца з гэтым»*. Тым не менш, як мы ведаем, у пачатку сакавіка 1918 года Брэсцкі мір быў заключаны на вельмі нявыгадных для беларусаў умовах, што, сярод іншага, вымусіла іх ужо напрыканцы таго самага месяца абвясціць незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

У дачыненні да БНР аўтары кнігі, пра якую ідзе гаворка, адзначаюць наступнае (цытаты мы падаём у нашым перакладзе): *«Дзяржаўнага ўтварэння, сфарміраванага ў Мінску ў лютым 1918 года, да акупацыі горада нямецкімі войскамі, Германія не прызнала, але ж паважала ягоныя ўстановы. Ні ў газетах імперскай адміністрацыі, ні ў іншых сродках масавай інфармацыі, ні ў пратаколах перамоў паміж ваеннай адміністрацыяй Мінска і мясцовымі палітыкамі няма пагардлівых або зняважлівых выразаў наконт Беларусі. Адмова ў прызнанні мела ваенныя і палітычныя прычыны: акупаванай часткай тэрыторыі Германія разменьвацца не збіралася, а іншая частка Беларусі разглядалася нямецкім кіраўніцтвам як унутраная расійская праблема. Беларускія прадстаўнікі занадта позна прыбылі на мірныя перамовы ў Брэст-Літоўск. Цэнтральныя дзяржавы і Савецкая Расія дамовіліся пра замацаванне ў мірнай дамове лініі размежавання інтарэсаў, што падзяляла Беларусь, беларускае кіраўніцтва выступіла супраць гэтых палажэнняў дамовы…»*

І сапраўды, найбольш цікавымі матэрыяламі з гэтай кнігі з'яўляюцца невядомыя раней дакументы, якія датычацца гісторыі БНР, барацьбы за дзяржаўную незалежнасць Беларусі і ў шэрагу выпадкаў дазваляюць зусім інакш паглядзець на пэўныя падзеі і дзеянні тагачасных палітыкаў. Хто толькі дагэтуль не паленаваўся выказацца наконт тэлеграмы, нібыта атрыманай германскім кайзерам Вільгельмам II ад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў красавіку 1918 года! Некаторыя аўтары нават пішуць, што частка дзеячаў БНР называла той дакумент «ганебным», а гэта прывяло да расколу ў шэрагах самой Рады. Больш за тое, сам факт быццам бы накіравання «тэлеграмы Рады кайзеру» ўжо сто гадоў як выкарыстоўваецца камуністычнымі і посткамуністычнымі палітыкамі ды гісторыкамі найперш у Маскве і Мінску, каб зганьбіць усю дзейнасць кіраўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі. Дакументы і факты, якія выразна сведчаць пра шчыльнае супрацоўніцтва саміх расійскіх бальшавікоў з кайзераўскім урадам, пры гэтым, як правіла, сціпла замоўчваюцца…

Ніхто, аднак, і нідзе па-сур'ёзнаму не ставіў пытанне, *а ці атрымліваў гэты дакумент сам германскі кайзер* і, самае галоўнае, ці мела гэтая тэлеграма хоць нейкія рэальныя наступствы для ўзаемадачыненняў германскіх (на той час – акупацыйных) і беларускіх улад у той час і пазней?

Звернемся да кнігі Матыяса Дорнфельта і Энрыка Зеевальда. Вось што мы можам там прачытаць:

*«26 красавіка 1918 года Раман Скірмунт, Язэп Варонка і Антон Аўсянік перадалі Галоўнаму камандаванню 3-га рэзервовага корпусу [германскай арміі] тэлеграму, адрасаваную Вільгельму II. Перадаючы дакумент, Скірмунт адзначыў: «Здаўна памкненнем беларусаў было абараніць сябе ад польскіх злоўжыванняў і расійскага дамінавання. Толькі цяпер падзеі разгортваюцца так, што нарэшце ўзнікае магчымасць свабоднага развіцця Беларусі. Маючы недастаткова сіл, каб перад аблічам двух варожых суседзяў – Польшчы і Расіі – свабодна развівацца палітычна і эканамічна, Беларусь шукае падтрымкі і абароны ў Германіі. Гэтае рашэнне, якое ўвасоблена ў тэксце тэлеграмы, паўстала ў выніку агульнага паразумення ўсіх беларускіх палітычных напрамкаў – ад памяркоўных да сацыялістычных. Такім чынам, яно ўяўляе сабою агульнае рашэнне без адрознення партыйных адценняў. Кожнай групоўцы ўнутры беларускай Рады было дадзена багата часу, каб самым грунтоўным чынам абмеркаваць гэтае рашэнне. Таму гэтую тэлеграму трэба разглядаць як волевыяўленне ўсяго беларускага боку, які абапіраецца на масу гарадскога і вясковага насельніцтва…»*

Беларускай дэлегацыі падчас перадачы тэлеграмы быў дадзены адказ, што дакумент будзе перададзены службовым шляхам. Адначасова ёй было ўказана на патрабаванні цэнзуры – з мэтай не дапусціць публікацыі дакумента. Генерал Эрых Людэндорф [*на той час намеснік начальніка Палявога генеральнага штаба германскіх войскаў.* – ***В.Г., Л.Б.***] тэлеграфаваў пра тое, што адбылося, у імперскае Міністэрства замежных спраў, зрабіўшы заўвагу, што беларускі рух не збіраецца прызнаваць мяжу, вызначаную Брэсцкай дамовай. Таму, на думку Людэндорфа, яго дзейнасць на захад ад вызначанай лініі *«не можа дапускацца»*, а што да тэрыторыі на ўсход ад вышэйзгаданай лініі, то гэтая дзейнасць, маўляў, з'яўляецца ўнутранай справай Расіі, хоць і там яна *«можа толькі памножыць існуючы хаос»*. *«У сувязі з гэтым*, – працягваў Людэндорф, – *лічу мэтазгодным адхіліць спробы далейшых перамоў і не прадпрымаць захадаў наконт перадачы дакумента Яго імператарскай вялікасці кайзеру»*. У гэтай справе ён прасіў бы Міністэрства замежных спраў выказаць сваю пазіцыю. Там гэтую справу ацэньвалі падобным чынам. Брэсцкая мірная дамова, маўляў, перашкаджае нямецкаму ўраду прыхільна паставіцца да жаданняў беларусаў. *«Яны мусілі б спачатку звярнуцца да расійскага ўрада і дамагчыся ад яго сваёй незалежнасці і аддзялення ад Расіі»*.

З прыведзенай цытаты вынікае, па-першае, тое, што кайзер Германскай імперыі Вільгельм II тэлеграмы ад Рады БНР **ніколі не атрымліваў**; па-другое, што нямецкае знешнепалітычнае ведамства мела на той час занадта шчыльныя кантакты з савецкім урадам у Маскве, каб пайсці насуперак жаданням хітрых бальшавіцкіх лідараў, найперш Леніна і Троцкага.

Але сітуацыя на фронце ў 1918 годзе, як і агульная палітычная сітуацыя ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў першай палове 1918 года, імкліва развівалася. З часам пазіцыя будучага прагітлераўскага путчыста, генерала пяхоты Людэндорфа па розных палітычных пытаннях пачынала ўсё больш разыходзіцца з пазіцыяй яго непасрэднага шэфа, начальніка Палявога генеральнага штаба фельдмаршала Гіндэнбурга. На баку апошняга быў генерал пяхоты Эрых фон Фалькенгайн, камандуючы 10-й германскай арміяй, якая тады і акупавала большую частку Беларусі і Літвы. 13 мая 1918 года ён разам з галоўнакамандуючым усімі нямецкімі сіламі на ўсходзе прынцам Людвігам прымаў парад нямецкіх войскаў на Пляцы Волі (былой Саборнай плошчы) у Мінску, а потым прысутнічаў на набажэнстве ў рымска-каталіцкім кафедральным саборы. А ўжо 27 мая таго самага года Фалькенгайн у сваёй мінскай рэзідэнцыі прыняў дэлегацыю Народнага сакратарыята БНР у складзе яго старшыні і сакратара замежных спраў Язэпа Варонкі, сакратара народнай гаспадаркі Івана Серады, намесніка народнага сакратара ўнутраных спраў Антона Аўсяніка і дэлегата Рады Паўла Алексюка. Прыкметна, што захаваны ў архіве германскага знешнепалітычнага ведамства дакумент пра гэтую сустрэчу мае назву «Пратакол аб прыёме беларускага Народнага сакратарыята генералам фон Фалькенгайнам», а сам змест дакумента сведчыць, што нямецкі генерал і кіраўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі абмяркоўвалі самыя надзённыя пытанні ажыццяўлення ўлады на той частцы тэрыторыі Беларусі, што не была акупавана бальшавікамі.

Цытуем далей вытрымкі з названага пратакола: *«Генерал фон Фалькенгайн выступіў перад запрошанымі прадстаўнікамі беларускага найвышэйшага органа з прамовай, у якой ён адзначыў прыхільнае стаўленне германскага ўрада да адраджэння Беларусі. Ён заўважыў, што* ***тыя непаразуменні, якія ўзніклі, былі вынікам таго, што дагэтуль не існавала сяброўскіх узаемаадносінаў паміж германскімі вайсковымі ўладамі і беларускімі арганізацыямі*** [вылучана намі. – ***В.Г., Л.Б.***], *і выказаў жаданне як найхутчэй усталяваць шчыльны кантакт з беларускімі найвышэйшымі ўладамі, мэтай якога павінны стаць культурны рост і прагрэс поспехаў Народнага сакратарыята і Рады. Германскі ўрад возьме пад увагу волю Народнага сакратарыята і Рады, якая прынясе Беларусі жаданыя пазітыўныя змены ў блізкай будучыні. Язэп Варонка падзякаваў генералу за прыхільнае стаўленне што да пабудовы беларускай дзяржаўнасці і дадаў: «У былой Расіі мы, беларусы, былі самай занядбанай, самай апошняй нацыяй. Ніводзін з расійскіх урадаў ніколі не прызнаваў права беларускага народа на самавызначэнне, і толькі звяржэнне старога рэжыму ў Расіі і ўсталяванне адносін паміж нямецкімі ўладамі і найвышэйшымі беларускімі органамі даюць беларускаму руху магчымасць завяршыць стварэнне канкрэтных формаў дзяржаўнасці… Час усталявання кантакту прамінае, мы ўваходзім у перыяд канструктыўнага супрацоўніцтва. Мы дзякуем вам і чакаем вашага спрыяння ў тым, каб прывесці ў жыццё ідэю нашай дзяржаўнасці».*

*Эрых фон Фалькенгайм таксама падзякаваў Язэпу Варонку і выказаў прыхільнасць да яго пажаданняў. Потым генерал распытаў дэлегацыю пра паходжанне прадстаўнікоў Народнага сакратарыята. Ён пацікавіўся складам Рады і лёсам удзельнікаў Усебеларускага з'езда… Заканчэнне сустрэчы адбывалася ў вельмі сяброўскай атмасферы: гаворка ішла аб прыгажосці Беларусі, барысаўскіх і бабруйскіх лясоў, падобных да якіх у Нямеччыне няма, а таксама пра магчымасці аднаўлення апусцелых тэрыторый. Прыём доўжыўся дзве гадзіны і закончыўся ў 13.00. У ім прыняў удзел таксама начальнік штаба галоўнакамандуючага* [*Макс Штапф.* – ***В.Г., Л.Б.***]. *Ён запрасіў пасля гэтага прадстаўнікоў Народнага сакратарыята на службовую размову да сябе ў кабінет, каб абмеркаваць дэталі супрацоўніцтва, планы Народнага сакратарыята і Рады, стасункі паміж Народным сакратарыятам і Саветам народных камісараў у Маскве і інш. /…/.*

*21 чэрвеня 1918 года Макс Штапф і Язэп Варонка мелі двухгадзінную размову па актуальных тэмах. Першым пунктам стала арганізацыя выезду спецыяльнай місіі Народнага сакратарыята ў Маскву з мэтай паведаміць Савету народных камісараў Расіі пра незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі і яе аддзяленне ад Расіі ды перадаць Саўнаркаму адпаведнае абгрунтаванне».*

Такім чынам, найвышэйшыя прадстаўнікі нямецкага ваеннага камандавання ў Мінску, па-першае, засведчылі, што прыязных і шчыльных кантактаў паміж гэтым камандаваннем і ўладамі БНР на той момант (27 мая 1918 года) не існавала, а па-другое, яны ўрэшце пачалі разглядаць Народны сакратарыят БНР як «найвышэйшы беларускі орган», а гэта значыць, дэ-факта прызналі эфектыўнасць і значнасць яго дзейнасці на тэрыторыі Беларусі, не занятай бальшавіцкімі войскамі. Па-трэцяе – і гэта, напэўна, самае важнае, нямецкае камандаванне, якое спасылалася на свой урад, адназначна прызнала як мінімум права Рады БНР і Народнага сакратарыята дамагацца ад Масквы прызнання незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі!

Сказанае пераканаўча сведчыць пра тое, што нямецкае камандаванне, аценіўшы тагачасныя рэаліі, прызнала і даволі высока ацэньвала пазітыўную ролю кіраўніцтва БНР найперш у палітычным жыцці краіны. Акрамя таго, невядомыя раней дакументы з Палітычнага ведамства МЗС Германіі дазваляюць сцвярджаць пра больш значнае адзінства ў шэрагах кіраўніцтва БНР у разуменні польскай і расійскай пагрозы ў справе стварэння беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці і выяўляюць цвёрдую пазіцыю апошняга адносна дасягнення рэальнай незалежнасці Беларусі.

Чаму ж місія Народнага сакратарыята ў Маскве тады не адбылася? Адназначнага адказу на гэтае пытанне няма, хоць у кнізе Матыяса Дорнфельта і Энрыка Зеевальда мы можам знайсці пэўныя тлумачэнні. Найперш гэтаму выразна перашкаджала пазіцыя ключавой асобы ў Міністэрстве замежных спраў тагачаснай Германіі, статс-сакратара Рыхарда фон Кюльмана: «…*Кюльман хацеў умацоўваць зафіксаваныя дамоўныя адносіны з Расіяй. Таму ён выступаў супраць аслаблення бальшавіцкага рэжыму і не падтрымліваў ніякіх сепаратысцкіх памкненняў. Выступаючы ў рэйхстагу 24 чэрвеня 1918 года, ён сказаў літаральна наступнае: «Імперскі ўрад ад самага пачатку стаяў на той пазіцыі, што ў высокай ступені пажаданым ёсць тое, каб перад тым, як канчаткова прызнаць на дыпламатычным узроўні дзяржаўныя ўтварэнні, што адлучыліся ад цела былой Расійскай імперыі, дэталёва і падрабязна абмяркоўваць з савецкім урадам у Маскве, ці магло б быць, а калі магло б – то пры якіх акалічнасцях дапушчана прызнанне такіх дзяржаўных новаўтварэнняў»*. А ўжо 3 ліпеня 1918 года паўнамоцны прадстаўнік Саветаў у Германіі Адольф Ёфэ тэлеграфаваў у Галоўную кватэру германскага галоўнакамандуючага з паведамленнем, што савецкі ўрад пагаджаецца на самастойнасць Эстляндыі і Ліфляндыі, але ў якасці кампенсацыі ён чакае саступак у Беларусі і Данбасе. На што Рыхард фон Кюльман у сваёй запісцы зазначыў: *«Да Беларусі мы не маем неспасрэднага інтарэсу, як і …да Кубані ды земляў данскіх казакоў»*. У выніку палажэнне пра тое, што *«Германія не будзе ніякім чынам умешвацца ў справы ўзаемаадносін Расійскай імперыі* [так стаіць у тэксце. – ***В.Г., Л.Б.***] *і яе часткамі-рэгіёнамі… і ніякім чынам не будзе падтрымліваць іх»* было зафіксавана ў артыкуле 3 «Расійска-нямецкага дадатковага пагаднення да мірнай дамовы», сакрэтнага дадатку да Брэсцкага міру, які быў падпісаны прадстаўнікамі кайзераўскага і ленінскага ўрадаў 27 жніўня 1918 года ў Берліне. За гэтую згоду ахвяраваць нацыянальнымі інтарэсамі Беларусі і іншых цяпер суверэнных частак былой Расійскай імперыі нямецкі ўрад павінен быў атрымаць ад савецкага 6 мільярдаў марак «кампенсацыі». Як пішуць нямецкія даследчыкі ў сваёй кнізе, *«першыя два вагоны з золатам былі перададзены немцам на станцыі Орша дакладна паводле вызначанага графіка»* адразу ж пасля ратыфікацыі сакрэтнага пратакола 6 верасня 1918 года. Тады ж пачаўся адвод германскіх войскаў з вялікай часткі беларускіх тэрыторый. Як сведчаць дакументы, нямецкія дыпламаты неабачліва разлічвалі, што бальшавіцкая ўлада ў Маскве сама рана ці позна пацярпіць крах…

Кіраўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі пра сакрэтны пратакол ад 27 жніўня 1918 года так нічога і не даведалася і яшчэ нейкі час лічыла, што ранейшыя дамоўленасці са штабам генерала фон Фалькенгайма застаюцца ў сіле…

Тым не менш, як сведчаць аўтары цытаванай кнігі, спасылаючыся на архіўныя дакументы, чуткі пра дамоўленасць паміж бальшавікамі і кайзерам аб адводзе нямецкіх войскаў неўзабаве дайшлі і да Мінска і *«выклікалі там сапраўдную паніку»*. Уплывовыя беларусы, у тым ліку кіраўнікі Дваранскага сходу і павятовыя маршалкі, пачалі пісаць, у тым ліку і самому кайзеру, пра сваю *«надзвычайную занепакоенасць перад пагрозай бясконцых закалотаў і непазбежнай анархіі»*. Аднак на гэты момант пасля вырашальных параз Германіі на Заходнім фронце кайзер ужо фактычна страціў усякую рэальную ўладу. Пагадзіўшыся з утварэннем у Германіі парламенцкай формы кіравання, ён мусіў пагадзіцца і з ультыматумам амерыканскага прэзідэнта Вудра Вільсана, шосты пункт якога прадугледжваў *«вызваленне расійскай тэрыторыі ад нямецкіх войскаў»*. Нямецкія архівы захоўваюць шэраг зваротаў, у якіх самыя розныя асобы просяць амерыканскага прэзідэнта падчас перамоў з германскім урадам пагадзіцца на тое, каб нямецкія войскі пакінулі пад сваім кантролем усю тэрыторыю Беларусі з мэтай пазбегнуць там *«жахлівага бальшавіцкага панавання»*. Адзін з такіх зваротаў быў падпісаны, сярод іншых, мінскім праваслаўным архіепіскапам Георгіем і прадстаўніком Рады БНР, вышэйзгаданым Паўлам Алексюком. Сваю заклапочанасць з нагоды магчымага пераходу тэрыторыі Беларусі пад бальшавіцкі кантроль выказаў Папа Рымскі Бенедзікт XV, ад імя якога апостальскі нунцый у Мюнхене Эўджэніа Пачэлі пісаў у германскае Міністэрства замежных спраў: «*Насельніцтва паміж Дзвіной і Дняпром… бачыць для сябе велізарную пагрозу з боку бальшавікоў, якія адразу займаюць вызваленыя германскімі войскамі тэрыторыі*».

Вострая рэакцыя кіраўніцтва БНР таксама не прымусіла сябе чакаць. Надзвычайная місія Народнага сакратарыята ў Кіеве, якую тады ўзначальваў Антон Луцкевіч, перадала ноту рашучага пратэсту супраць перадачы Беларусі пад кантроль бальшавікоў у тамтэйшыя прадстаўніцтвы Германіі, Аўстрыі, Балгарыі, Турцыі, Фінляндыі і Грузіі. У пасланні на імя прэзідэнта германскага райхстага Канстанціна Ферэнбаха са спасылкай на Акт 25 сакавіка 1918 года ўтрымлівалася просьба да сярэднееўрапейскіх дзяржаў прызнаць незалежнасць беларускай дзяржавы і аказаць у гэтай справе неабходную ваенную дапамогу. Адзначалася, што, згодна з ультыматумам таго ж прэзідэнта Вільсана, ранейшыя дамовы Германіі, у тым ліку і Брэсцкая, губляюць сваю юрыдычную сілу і не могуць перашкаджаць прызнанню незалежнасці Беларусі. «*Гэтага цяпер патрабуюць не толькі інтарэсы Беларусі, але і інтарэсы самой Германіі… Вырашэнне гэтай праблемы створыць у будучым трывалы падмурак для сяброўскіх адносін паміж абедзвюма краінамі*». У адказ на гэтае пасланне намеснік статс-сакратара нямецкага знешнепалітычнага ведамства Вільгельм фон Штум адказаў, што *«ў цяперашняй сітуацыі мы не маем магчымасці падтрымаць вашы пажаданні і павінны прапанаваць Народнаму сакратарыяту звярнуцца да нейтральных дзяржаў, а праз іх пасрэдніцтва – да прэзідэнта Вільсана»*. Становішча на той момант, аднак, яшчэ не выглядала безнадзейным. Пры пасрэдніцтве рэферэнта па ўсходніх справах у германскім знешнепалітычным ведамстве Рудольфа Надольнага было вырашана, што прадстаўнікі Рады БНР Іван Луцкевіч і Язэп Лёсік атрымаюць магчымасць (і дыпламатычныя пашпарты), для таго каб адправіцца ў Берн і Капенгаген і данесці сваю пазіцыю да ўрадаў нейтральных Швейцарыі і Даніі, а потым сустрэцца і з папскім нунцыем у Мюнхене. У Кіеве германскі прадстаўнік граф Ёганэс фон Берхем прыняў дэлегацыю БНР і пераслаў пазней у Берлін іх просьбу, *«каб Германія не выводзіла сваіх войскаў з Беларусі… да таго часу, пакуль не будзе сфарміравана беларуская вайсковая структура»*.

Лістападаўская рэвалюцыя ў Германіі істотным чынам змяніла расклады ў знешняй палітыцы: нават пасля скасавання Масквой Брэсцкага міру ўвага афіцыйнага Берліна да таго, што робіцца на ўсходзе, істотна аслабла. І хоць вышэйзгаданы Рудольф Надольны адстойваў палітыку як мага больш шырокай падтрымкі «памежных з Расіяй дзяржаў», прынцыпова гэта нічога не змяніла.

Падзеі наступных двух гадоў прывялі да ўзмацнення польскага чынніка ў нашай гісторыі. 5 лютага 1919 года ў Беластоку прадстаўнікі нямецкага і польскага ўрадаў падпісалі пагадненне, сутнасць якога палягала ў тым, што пасля адводу нямецкіх войскаў з беларускіх земляў функцыю *«абароны іх ад бальшавізму»* павінна была выканаць польская армія. Гэта выклікала рэзкі пратэст з боку Язэпа Варонкі, у той час міністра беларускіх спраў ва ўрадзе Літвы, які тэлеграфаваў у Міністэрства замежных спраў Германскай Рэспублікі Людвігу Цымерле, адзначаючы, сярод іншага, што адбываецца *«нічым не абгрунтаванае замацаванне згубнага для нас польскага ўладарання ў межах Літвы»*.

У сваю чаргу статс-сакратар германскага знешнепалітычнага ведамства на запыт Міністэрства абароны па беларускай праблематыцы напісаў: «*Беларускае пытанне настолькі расплывістае, што немагчыма даць яму колькі-небудзь выразную ацэнку*».

Далейшыя зносіны Веймарскай Рэспублікі з Беларуссю паступова скіроўваліся ў бок змушанага фармальнага прызнання Германіяй Беларускай ССР, што была ў міжчассі, 31 жніўня 1920 года, паўторна абвешчана бальшавікамі. Гэты працэс быў запачаткаваны ў расійска-нямецкім пакце, падпісаным 16 красавіка 1922 года ў італьянскім горадзе Рапала. Паколькі фармальна Савецкага Саюза яшчэ не існавала, гэты пакт фіксаваў неабходнасць усталявання паўнавартасных дыпламатычных зносін Веймарскай Рэспублікі і Савецкай Расіі. Пасля таго як СССР у Маскве быў створаны, 15 лютага 1923 года старшыня ЦВК БССР Аляксандр Чарвякоў накіраваў праз расійскае паўнамоцнае прадстаўніцтва ў Берліне дакумент наступнага зместу, напісаны па-руску, а не выключана, калі меркаваць па яго стылістыцы, што і складзены ў нейкім маскоўскім кабінеце:

*«Господину Президенту Германской Республики*

*Господин Президент!*

*Во исполнение соглашения о распространении Рапальского договора, Центральный Исполнительный Комитет Белорусской Социалистической Советской Республики, стремясь к дальнейшему укреплению отношений дружбы с Германской Республикой, счел за благо назначить своим полномочным представителем при Правительстве Германской Республики гражданина Николая Николаевича КРЕСТИНСКОГО.*

*Аккредитуя его настоящей грамотой, Центральный Исполнительный Комитет просит Вас принять гражданина Крестинского с благосклонностью и верить всему тому, что он будет иметь честь излагать Вам от имени Белорусской Социалистической Советской Республики.*

*Центральный Исполнительный Комитет пользуется сим случаем, чтобы выразить Вам, Господин Президент, и Германскому народу пожелания благоденствия и преуспеяния.*

*Учинено в гор.Минске 16 февраля 1923 года.*

*Председатель Центрального Исполнительного Комитета*

*А.Червяков»*.

Варта дадаць, што Мікалай Красцінскі, хоць і нарадзіўся ў беларускім Магілёве, амаль усё сваё свядомае жыццё служыў расійскім бальшавікам, і сёння нам не вядомы факты наконт таго, каб ён хоць бы нейкім чынам адстойваў правы беларусаў у Веймарскай Рэспубліцы. У 1938 годзе, абвінавачаны сярод іншага ў «сувязях з Троцкім і германскай разведкай», ён быў расстраляны сталіністамі.

У кнізе, якую мы прэзентуем чытачам «Народнай Волі» (і якая, як мы спадзяёмся, неўзабаве ўбачыць свет і ў беларускім перакладзе), адзначаецца, што ніякага нямецкага консульства ці іншага дзяржаўнага прадстаўніцтва ў Мінску ў той час створана так і не было. У той жа час у берлінскім раёне Шонэберг з адрасам Моцштрасэ, 21, пад назвай «Беларускае прэс-бюро» дзейнічала неафіцыйная надзвычайная місія Беларускай Народнай Рэспублікі на чале з Леанардам Зайцам, і існаванне гэтага прадстаўніцтва было дазволена тагачаснымі нямецкімі ўладамі.

**Валянцін ГОЛУБЕЎ,**
**доктар гістарычных навук,**

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

РАКУРС

## Угроза безработицы в Евросоюзе из-за коронавируса

*Международная организация труда подсчитала, что из-за распространения COVID-19 за воротами предприятий могут оказаться до 25 миллионов человек.*

Генеральный директор МОТ **Ги Райдер** ратует за международное сотрудничество в борьбе с новой волной безработицы и денежную помощь пострадавшим: «*Мы видим, как многие правительства, включая европейские, предпринимают большие финансовые и монетарные усилия, чтобы поддержать экономику своих стран, сохранить рабочие места и доход трудящихся Всё это хорошо. Но мы помним, каким разрушительным был кризис 2008 года. Мы знаем, что, когда правительства действуют сообща, а не поодиночке в своих национальных структурах, это снижает пагубный эффект. И, конечно, самозанятые люди нуждаются в помощи, потому что они не могут просить поддержки у своего работодателя, которого нет*».

Уже проводят массовые увольнения наиболее затронутые пандемией отрасли: туризм, авиатранспорт, общественное питание, – потому что они больше всего предполагают скопление людей и вследствие этого передачу инфекции. Промышленное производство и строительство пока выжидают. Тем временем некоторые страны предлагают помощь тем людям, которым не причитается пособие по безработице.

В Норвегии размер этой помощи составляет 80% от средней зарплаты за последние 3 года; в Бельгии – более 1,5 тысячи евро в месяц; во Франции – 1,5 тысячи для тех, кто лишился 70% дохода; в Ирландии компенсация за потерю работы составляет 203 евро в неделю на 6 недель; в Италии – 600 евро; в Великобритании – 94 фунта в неделю.

В Европарламенте социалисты и демократы предложили создать фонд для преодоления социально-экономических последствий нынешнего кризиса.

Идею коронабондов будут обсуждать министры финансов Еврозоны и всего Евросоюза. Некоторые из них уже ее отвергли, утверждая, что ослабление бюджетных правил может только усугубить финансовые трудности.

ПОДСЧИТАЛИ...

## Дорогое удовольствие!

Перенос Олимпийских игр в Токио на 2021 год может стоить организаторам 2,7 миллиарда долларов. Такую сумму приводит Forbes.

По данным издания, бюджет Олимпиады на декабрь 2019 года составлял около 12,6 миллиарда долларов. После переноса Игр организаторы потратят на проведение соревнований около 15,3 миллиарда долларов. В этом случае Игры в Токио станут вторыми самыми дорогими в истории. Больше на проведение Олимпиады потратила лишь Россия при подготовке к соревнованиям в Сочи – 21,9 миллиарда долларов.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

## Индекс деловых настроений ФРГ рухнул до минимума

*Показания барометра деловых настроений снизились в марте на 10 пунктов, что свидетельствует о шоковом состоянии немецкого бизнеса, заявил глава Института экономических исследований (IFO) в Мюнхене.*




На фоне пандемии коронавируса SARS-CoV-2 представители деловых кругов Германии пессимистично оценивают перспективы экономического развития страны и опасаются наступления рецессии. Показатель барометра деловых настроений, в феврале составлявший 96,0 пункта, в марте снизился до 86,1 пункта, сообщил Институт экономических исследований.

Это наиболее низкое значение индекса IFO с августа 2009 года, а также наиболее сильное падение данного показателя в истории объединенной Германии. «*Немецкая экономика находится в шоковом состоянии*», – прокомментировал новые показатели глава IFO **Клеменс Фюст**. По его словам, топ-менеджмент немецких компаний значительно более пессимистично оценивает ситуацию и перспективы развития своего бизнеса.

«*Следует исходить из того, что тяжелая рецессия будет продолжаться не менее двух кварталов*», – заявил в интервью Reuters эксперт IFO в сфере экономической конъюнктуры **Клаус Вольрабе**. Он также предположил, что по итогам всего текущего года показатель ВВП может сократиться на 5–20 процентов в зависимости от продолжительности локдауна.

Связанный с коронавирусом кризис обойдется Германии в сотни миллиардов евро. По подсчетам IFO, в зависимости от продолжительности частичного простоя производства ФРГ может потерять от 255 до 729 миллиардов евро. При этом экономика ФРГ может сократиться на 7,2–20,6 процентного пункта.

## Сезонных рабочих хотят заменить беженцами

*В Германии пропадает урожай – въезд в страну сезонным рабочим из Польши и Румынии закрыт. В партии ХДС предлагают привлечь к сбору урожая беженцев.*

После запрета на въезд в Германию иностранных сезонных рабочих раздаются призывы спасти урожай с помощью беженцев. Об этом, в частности, заявил эксперт партии ХДС по вопросам внутренней политики Германии **Матиас Миддельберг**. «*Биржи труда должны исчерпать все возможности и в том числе обратиться к тем 600 тысячам беженцев, которые числятся в Германии как ищущие работу*», – заявил он изданию Die Welt.

По словам Миддельберга, многие из получивших в Германии убежище стремятся найти работу и смогут заработать на полях в рамках временного трудоустройства без сокращения социальных выплат.

В Германию запрещен въезд нескольким категориям иностранцев, под которые подпадают и сезонные рабочие. Каждый год в Германии работают около 300 тысяч таких работников, главным образом из Польши и Румынии. Согласно заявлениям немецких сельхозпроизводителей, в этом году под угрозой оказался урожай спаржи – ее некому собирать.

## В ФРГ отмечено значительное сокращение числа преступлений

*Вместе с тем криминалистов беспокоит рост распространения детской порнографии*

Правоохранительные органы в 2019 году зафиксировали почти 5,4 миллиона правонарушений – на 2,1 процента меньше, чем годом ранее. Резко сократилось число краж и краж со взломом. Количество первых упало на 5,9 процента, достигнув 1,8 миллиона – это самый низкий показатель с 1987 года, вторых – на 10,6 процента.

СЛЫШАЛИ?

## Самоизоляции для борьбы с вирусом недостаточно

*Глава Всемирной организации здравоохранения (ВОЗ)* ***Тедрос Гебреисус*** *признал, что самоизоляция граждан и ограничение на передвижение не помогут окончательно ликвидировать пандемию коронавируса. Соответствующее заявление опубликовано на сайте организации.*

По его словам, такие меры позволят выиграть время с распространением коронавируса, однако для спасения жизней этого недостаточно. Так можно лишь создать «окно возможностей», полагает глава ВОЗ.

По его словам, есть шесть способов добиться прорыва в борьбе с распространением вируса. В первую очередь необходимо улучшить систему здравоохранения и подготовить медицинский персонал, который будет готов работать с зараженными. Кроме того, важно увеличить число тестов на коронавирус и выявить всех инфицированных.

Глава ВОЗ также указал, что необходимо готовить дополнительные больницы для приема пациентов, следить за всеми контактами инфицированных и бросить все силы именно на борьбу с коронавирусом.

Гебреисус уверен, что такие меры не только остановят распространение вируса, но и не допустят возобновление эпидемии после снятия всех ограничений. «*Если вы будете вновь открывать школы и предприятия, то лишь для того, чтобы закрыть их потом*», – отметил он.

ВОЗ назвала два основных симптома коронавируса: высокая температура и сухой кашель на фоне сильно осложненного дыхания.

МЕМУАРЫ

Михаил ФАРФЕЛЬ

# Открытый перелом

*(Продолжение. Начало в №№18–24.)*

### Из депутатов – в дипломаты

«Человек, который не надеется на везение, побеждает невезение».
**Талмуд «Брахот», 64 а**

Я постепенно начал считаться если не специалистом по Израилю, то парламентарием, который уже имеет разносторонние контакты и хорошо разбирается в израильской политической кухне. Постепенно моя кандидатура «замаячила» как один из вариантов на должность посла в это государство. Тем более что практически все послы назначались из состава парламента. Вместе с тем ни на какую протекцию рассчитывать не приходилось. У меня не имелось никаких связей с властями и поэтому не было необходимой в подобных случаях поддержки.

Меня часто спрашивают: «Как тебя, еврея, назначили руководителем дипломатической миссии в Израиле?» Признаться, и для меня это в значительной степени остается загадкой. Во всяком случае, однозначной версии я не имею, но некоторые предположения попробую изложить.

Представитель Сохнута как-то сообщил мне, что он сможет организовать визит их руководителя Симхи Диница в Беларусь. Господин Диниц был известным дипломатом и много лет представлял Израиль в ООН. Вместе с тем это был умнейший и опытнейший переговорщик. Визит мог состояться при условии, что мы обеспечим ему встречу с первыми руководителями страны. Я переговорил со Станиславом Шушкевичем, который был в то время председателем парламента, и с Михаилом Мясниковичем, занимавшим должность заместителя премьер-министра. Оба сказали, что с удовольствием примут делегацию такого уровня. Сказано – сделано.

Мы встретили Диница, разместили в гостинице. Встреча с руководством страны была назначена на время буквально через два часа после прилета. В кабинете председателя парламента все было готово к переговорам. Диниц и сопровождавшие его лица, обменявшись приветствиями с белорусскими руководителями, были приглашены в просторный и соответственно оформленный зал. Хозяева во главе с Шушкевичем и Мясниковичем разместились по одну сторону стола, гостям было предложено занять места напротив.

Когда я зашел последним, выяснилось, что для меня нет свободного кресла. Некоторое время я стоял в растерянности и, чтобы как-то выйти из этого неудобного положения и превратить ситуацию в шутку, сказал:

– Как представитель Республики Беларусь я должен сидеть по эту сторону, – и указал на места, занятые белорусской делегацией. – Как еврей могу сесть и напротив, – указал в сторону израильской делегации. – Поскольку ни с той, ни с другой стороны мне не нашлось места, то, может быть, я сяду на стол?

Все рассмеялись, сначала белорусы, а после перевода и израильтяне. Я быстро вышел в приемную, схватил стул и уверенно сел на сторону белорусской делегации, что опять вызвало улыбку обеих сторон, но уже без перевода.

Станислав Шушкевич, приветствуя гостей, говорил о глубоких пятисотлетних исторических связях между нашими народами, провел параллели между судьбами обоих молодых государств, процитировал Библию – все, как и положено интеллигентному образованному хозяину. В ответном слове господин Диниц поблагодарил за теплый прием, высказал признательность властям Республики Беларусь за содействие работе Сохнута на ее территории. Им была отмечена благоприятная атмосфера по всему комплексу еврейских вопросов, созданная в Беларуси. Затем израильский дипломат вручил небольшие подарки – древнюю амфору для масла времен Второго храма и небольшое устройство из камня, с помощью которого в Древнем Израиле делали монеты. При этом он шутливо добавил, что, поскольку в молодой стране будут свои деньги, это устройство, как он надеется, поможет их изготовить.

После этого нашелся кто-то из парламентских шутников, который предложил назвать новую монету «шукель» – Шушкевич, Кебич, Фарфель. По две буквы из фамилий первых лиц государства, а две последние – из моей фамилии, что тоже правильно, так как у евреев читают и пишут справа налево.

Затем обсудили вопрос установления дипломатических отношений. Обе стороны отметили, что сделают все, чтобы как можно быстрее эти отношения были установлены, причем на самом высоком уровне. И вдруг господин Диниц говорит:

– Мы очень рады, что первым послом в Израиле будет Михаил. В Израиле, как и в Беларуси, его считают наиболее подходящей фигурой, и он, безусловно, станет тем мостом, который будет олицетворять сложившиеся связи между нашими народами и государствами.

Шушкевич, я думаю, слышал об этом впервые, но все же после небольшой паузы спросил:


Послы России, Украины и Секретарь СНГ Иван Коротченя у меня в гостях.

– Откуда вам известно, что именно Михаил – наша кандидатура?

На что Диниц ответил гениально:

– Ведь я уже два часа в Беларуси...

На этой неожиданной ноте встреча завершилась. Она дала мне силы для того, чтобы осуществить мою мечту, казавшуюся до этой встречи нереальной.

Министр иностранных дел, член моей комиссии, на очередном ее заседании как бы невзначай сообщил мне:

– Знаешь, а у меня есть хорошая кандидатура на должность посла в Израиле.

И он назвал фамилию известного профессора-историка, его хорошего знакомого. Мне стало ясно, что далеко не все думают так, как Диниц... Понимая, что время упускать нельзя, я попросился на прием к председателю Совета министров господину Кебичу, к которому относился с большим доверием и уважением. Мне было известно, что его родители в годы Второй мировой войны спасли еврейскую семью, не раз рискуя собой. Как мне казалось, он тоже хорошо, с симпатией относился ко мне. Однажды я даже был у него в гостях. У Кебича была прекрасная коллекция спиртных напитков, которая после моего посещения при хорошей закуске уменьшилась на одну бутылку.

Несмотря на занятость, премьер уделил мне внимание в тот же день, когда поступила моя просьба о встрече. Рассказав о положении дел с предстоящим назначением посла в Израиль, я сообщил, что министр уже хочет кого-то назначить. Кебич неожиданно прямо спросил:

– А у тебя имеется другая кандидатура?

– Конечно! – последовал мой ответ.

– Кто?

– Я.

– Не кажется ли тебе, – уже абсолютно серьезно обратился ко мне предсовмина, – что в то время, когда один брат эмигрирует в Израиль, другого не назначают послом в эту же страну. Может быть, в определенном смысле это уже перебор?

– Нет, не кажется и не перебор. А вот в чем я точно убежден: именно такое решение и будет самым убедительным показателем новой национальной политики, о которой трубят власти со всех трибун.

Вячеслав Францевич встал и молча пожал мне руку.

### Визит премьер-министра. Новый уровень отношений. Судьбоносное назначение

*«Что бы ни предпринимал человек, он делает это для жизни своей».*
**Библия, «Иов», 2:4**

В одном из своих выступлений с трибуны Верховного Совета я поднял вопрос об организации авиарейсов по маршруту Минск–Тель-Авив. Сложилась совершенно ненормальная ситуация, при которой весь огромный пассажиропоток в Израиль осуществлялся зарубежными авиакомпаниями. Люди репатриировались через Москву, Варшаву и Будапешт. Даже с коммерческой точки зрения это выглядело абсурдно. Зачем отдавать деньги «Сохнута» «Аэрофлоту», «Лоту» или «Малеву»? У нас была своя авиакомпания, которая технически могла обеспечить такие полеты. Я уже не говорю о морально-этической стороне дела. Плохо себе представляю, чтобы итальянца, эмигрирующего в Германию, заставляли лететь через Францию. Об этом мы беседовали и с Федоровым – главным авиатором страны. Вскоре этот серьезный и ответственный человек уже вел переговоры с компанией «Эль-Аль» вначале о чартерных, а затем и о регулярных рейсах. Сегодня маршрут Минск–Тель-Авив является одной из самых эффективных коммерческих линий «Белавиа».

Часто ко мне за помощью обращались граждане, которым по тем или иным причинам запрещали выезжать из страны. Могу отметить, что во многих случаях помочь удавалось. Когда я начал работать в посольстве, то первый, у кого довелось побывать в гостях, был парень, который смог с моей помощью распутать бюрократические преграды, на протяжении нескольких лет не дававшие ему возможности репатриироваться.

И вот в четвертый раз я приземляюсь в аэропорту Бен-Гурион в составе делегации из трех человек. Вместе со мной заведующий отделом МИД, в будущем посол в Великобритании, и заместитель министра торговли Республики Беларусь. Молодые, образованные, амбициозные, с ними было приятно работать и общаться. Признаться, работали они, я же больше присутствовал, стараясь впитывать и приобретать опыт дипломатических переговоров. А целью поездки была подготовка визита премьер-министра Республики Беларусь в Израиль, включавшего в себя подписание документов об установлении дипломатических отношений между нашими странами. Мы были очень ограничены во времени. Премьер в это время посещал Арабские Эмираты, после завершения визита прилетал в Израиль.

У нас была всего одна неделя для подготовки серьезных документов, и ребята очень старались. В принципе, сложностей больших не было. Обсуждались стандартные документы, но вот один пункт никак не удавалось согласовать. Израильтяне хотели, чтобы в договоре фигурировало установление дипломатических отношений на уровне посольств, и на этом ограничиться. Мы же настаивали на формулировке, включающей и обмен послами, что сразу выводило уровень отношений на максимальный. Эта небольшая проблема была связана с пониманием израильтянами того факта, что вскоре им придется подписывать еще тринадцать таких договоров со всеми новыми государствами, образовавшимися на месте СССР.

Посылать еще тринадцать послов не всегда было оправданно со всех точек зрения. Мировая практика знает опыт, когда посол в одной стране представляет интересы своей страны и в другой, а то и в нескольких странах. Все зависит от уровня отношений. Послы в России, Украине, Польше, Литве и Беларуси – это представлялось им некоторым излишеством, тем более что товарооборот между нашими странами составлял к этому времени всего пятнадцать тысяч долларов. Сегодня бизнесмен средней руки в своем кармане имеет больше наличными.

В связи с тем, что переговоры происходили на фоне прибытия в ближайшие дни высокой белорусской делегации, нам удалось добиться согласия на наш вариант договора. И вдруг новая неожиданность. При приеме гостя такого уровня протокол требует исполнения гимна государств, почетного караула и другой обязательной атрибутики. Израильтяне попросили предоставить им кассету с записью гимна или его партитуру. У нас ничего этого с собой не было. Не оставалось и времени получить это из Беларуси.

Мы оказались в сложном, если не сказать дурацком, положении. На некоторое время даже растерялись. И тут мне пришло в голову спросить коллег, не умеет ли кто-нибудь из них играть на музыкальном инструменте. Заместитель министра внешнеэкономических связей, как оказалось, неплохо играет на пианино. Обращаясь уже к принимающей стороне, я полушутя сказал:

– Все, что мы можем в этой ситуации, – это наиграть мелодию гимна. Мы ведь дали вам столько музыкантов, что им не составит труда, я надеюсь, записать наш гимн на слух.

Так и поступили. На все про все у них была одна ночь. Как они успели за это время расписать партитуру и подготовить оркестр, остается загадкой и по сей день. После всех волнений нам показалось, что такого красивого исполнения гимна мы еще никогда не слышали.

*(Продолжение на 6-й стр.)*

